*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 21(355)** **3 ЧЭРВЕНЯ 1998 г.**

## Чатыры тыдні ў траўні

Прыватны агляд беларускага друку.

***Ваенная тэма ("Наша Ніва" № 9' 98 )***
***Амаль не заўважаны з'езд пісьменнікаў***
***Каўбасная тэма ("Звязда")***
***Кірыла Пазняк "Прызвычайванне" ("ЛіМ" , № 20, 15.05.98г.)***

Інфармацыйнай падзеяй траўня я назваў бы публікацыі ў "Нашай Ніве", прысвечаныя Вялікай Айчыннай Вайне, партызанам і Ус.Родзьку.

Няма сумневу, погляды аўтараў "НН" выклічуць крытыку, непаразуменні, а часам і непрыйманне. На маю думку прадстаўленыя імі матэрыялы трэба разглядаць як асаблівую правакацыю, апорыю, парадокс. Гэты прыём ужывалі антычныя філосафы, а майстры дзэн скарыстоўваюць яго для прасвятлення сваіх вучняў.

Факты, пададзеныя ў "НН" не утвараюць, па майму перакананню, аб'ектыўнае панарамы. Іхняе прызначэнне ў іншым: выявіць абсурд традыцыйных уяўленняў пра вайну праз пабудову іншае, можа і не менш абсурднае, сістэмы вобразаў, каб дапамагчы людзям адмовіцца ад нечага большага, чымся вобразы паэмы "Сцяг брыгады". Калісьці шосты патрыярх навукі дзэн спытаў вучняў: " Што, вы мяркуеце, рухаецца: вецер, або палатніна на ветры?"

Правільны — з ягонага гледзішча — адказ быў такі: "Ні тое, ані другое. Знаходзіцца ў руху свядомасць".

Гэтак, на мой погляд, і нашаніўскія "правакатары" імкнуцца пусціць у рух нашу свядомасць, з поўным спакоем паведамляючы, што летам 1944 года байцоў палымянага патрыёта Беларусі Ус.Родзькі "немцы забяспечвалі ... зброяй, амуніцыяй і самалётамі перакідвалі ў Беларусь". Нам намагаюцца давесці, што любоў да Айчыны, калі чалавек за яе ідзе на смерць, вартая павагі, нягледзячы нават на тое, што іншы раз можа выяўляцца ў амаль што пачварных формах.

Ці перканаўча і ці зразумела выклалі гэта аўтары з "Нашай Нівы"? На мой густ, можна было б напісаць больш лапідарна, не пакідаючы столькі прасторы для чытацкіх інтэрпрэтацый. Але, паўтаруся, артыкулы падштурхоўваюць да развагаў і гэтым бяспрэчна каштоўныя.

Нібы дзеля кантрасту цалкам былі пазбаўленыя гэтай уласцівасці публікацыі пра з'езд Саюзу Пісьменнікаў. Тут і "Наша Ніва" праявілася, я лічу, найгоршым чынам, і "ЛіМ" ужыў усе захады, каб скарыстаўшы аж чатыры старонкі нічога па сутнасці не паведаміць.

А "Наша Слова", "Культура", "Звязда" ? Калі перад з'ездам СБП яшчэ заўважаліся нейкія рухі, былі нейкія выступы ў прэсе, то пасля яго — ні "гу-гу". Сумна. Ніводнага інтэрвію, ніводнага пытання да новага старшыні, ні да каго іншага з пісьменнікаў.

Трэцяя (але не па важкасці !) тэма — каўбасная. Усе, мусіць, чулі пра недахоп танных харчовых тавараў у Менску ды іншых рэгіёнах. Беларускамоўны чытач мог сачыць за падзеяй праз "Звязду", дзе з'яўляліся змястоўныя перадавіцы з назвамі кшталту "Куды падзеліся вараныя каўбасы" (07.05.98г.), артыкулы — даследаванні "Зноў няма маргарыну і маянэзу" (19.05.98г.) ды цэлыя падборкі пад страшнаватаю рубрыкаю "Ежа".

Па - рознаму можна пракаментаваць і гэтыя падзеі, і іхняе абмеркаванне. Хтосьці, верагодна, аб'явіць пра крах каўбасных ідэалаў або адзначыць, што калі б беларусы болей уважалі на незалежнасць, мову, дэмакратыю ды іншыя абстракцыі, то мо не мелі б сёння клопатаў з такімі канкрэтнымі рэчамі як "язык ялавічны, гуляш, рубец, кумпячкі курыныя". Можна разважаць, куды ўсё гэта знікла-з'ехала, а можна нагадаць, што старажытныя кітайцы лічылі страўнік думальным органам чалавека, і што калі яны і памыляліся, то хіба не ў выпадку беларусаў.

Найагульнейшым і вельмі справядлівым тлумачэннем (яно, дарэчы, прысутнічае і ў "Звяздзе") ёсць тое, што адбываецца ўсталяванне эканамічнай сістэмы, за якую людзі ў сваім часе не аднойчы прагаласавалі. Цікава, што на гэты раз эканамічныя змены апярэджваюць свядомасць, і "Звязда" слушна зазначае: "калі мы хочам жыць у рынку, трэба кіравацца законамі рынычнай эканомікі" (19.05.98г.) Значыць усё ж - ткі хочам ! Застаецца спадзявацца, што калі сёння апетая Адамам Смітам "нябачная рука рынку" лёгка прыбірае з паліцаў цукар, каўбасу і маргарын, гэтак жа яна мае моц вярнуць іх туды — пры адпаведнай сіле жадання з нашага боку.

Але не варта чакаць такіх зменаў у блізкім часе. Чаму — шмат ёсць адказаў, але ўсе нейкія няпоўныя. Поўны адказ, як падаецца шмат каму, хаваецца за замежнымі словамі "менталітэт", "культура", "палітычная традыцыя". Тым, хто цікавіцца праблемай, раю прачытаць артыкул К.Пазняка ў "ЛіМе". Для тых, хто не захоча, змяшчаю тут узятую з артыкула думку Я.Лёсіка, што нацыянальнае вызваленне — гэта яшчэ і змаганне культур. Пра сённяшні стан культуры добра гаворыць рэакцыя на пісьменніцкі з'езд. Заўтрашні бычыцца ўсё ж святлейшым, калі ёсць такія публіцысты, як К.Пазняк, але пры ўмове, што іх будуць чытаць.

Д.Ж.

## Дні іспанскага кіно

З 12 па 20 мая 1998 г. у Менску праходзілі дні сучаснага іспанскага кіно. Ідэя гэтага мерапрыемства ўзнікла на сустрэчы пасла Іспаніі і кіраўніцтва таварыства "Беларусь — Іспанія", што адбылася летась. І вось пасля доўгай і руплівай працы супрацоўнікаў іспанскага пасольства пад кіраўніцтвам Дарадцы па культуры Хуана Хасе Эррэры де ла Муэла, актывістаў таварыства "Беларусь — Іспанія" і сяброў мінскага кінаклуба 13 мая ў перапоўненай зале палаца прафсаюзаў адбылося ўрачыстае адкрыццё фіесты (свята) іспанскага кіно на Беларусі. Пасля афіцыйных прамоў гледачы ўбачылі фільм славутага іспанскага рэжысёра Карласа Сауры "Фламенка", які атрымаў прызы кінафестываляў у Манрэале, Венецыі, Таронта, Нью-Ёрку і Лондане. Фільм прысвечаны традыцыйнаму іспанскаму фальклёру пад назовам "Фламенка", дзе арганічна спалучаюцца музыкаа гітарыстаў, спевы і танец. У пустым будынку чыгуначнага вакзала ў Севіллі збіраюцца лепшыя народныя спевакі, музыкі і танцоры, якія прадстаўляюць розныя стылі і традыцыі фламенка. Фільм ідзе 1,5 гадзіны, але глядзіцца на адным дыханні і не патрабуе перакладу, бо мы бачым жывую душу вольнага свабодалюбівага іспанскага народа які перажыў доўгія стагоддзі варожай акупацыі, вызвольную 500-гадовую вайну за незалежнасць, грамадзянскую вайну і фашыстскую дыктатуру. Не выпадкова, што лёс іспанцаў вельмі блізкі да лёсу беларусаў і калі глядзіш на экран міжволі ўспамінаеш музыку і спевы нашага Палесся. Усяго іспанскі бок прывез на Беларусь 7 розных фільмаў, якія пераканаўча сведчаць аб розных тэндэнцыях і кірунках сучаснага іспанскага кінаматографа.

***Прэзідэнт таварыства "Беларусь — Іспанія", дацэнт Беларускага універсітэта культуры Алег Трусаў.***

## Ліда-98

Гэта не 91-93 гады. Гэта не акцыя БНФ. Гэта проста лідскія заўзятары футболу 24.05.1998г.



*Здымкі Уладзіміра Хрышчановіча*

### Паважаная рэдакцыя газеты "Наша слова".




Мне вельмі хочацца Вам і крайне, роднай Бацькаўшчыне, дапамагчы прыблізіць час, каб з нас не смяяліся. Я ўжо вельмі старая былая нгастаўніца, вельмі перажываю за краіну, мову, моладзь.

Хачу Вам дапамагчы вось якой парадай, змяшчайце ў сваёй газеце распрацоўкі ўрокаў, пачынаючы ад 1 кл. і побач - старэйшыя класы. Можна нават уключыць гісторыю, сусвет і др. пр.

Звярніцеся да настаўнікаў, яны Вам акажуць дапамогу. Вось у Ашмянах есць разумны настаўнік. Нашы сённяшнія настаўнікі не купляюць літ. (ды яе і няма, не чытаюць кніг). і часу ў іх няма; многія займаюцца акрамя школы, бізнесам, рэпетытарства. Так, што ў Вас ёсць шанц павялічыць колькасць падпісчыкаў.

Я вельмі перажываю, што патрэбная газета можа быць закрыта.

Дай Бог Вам удачы.

Выбачайце за няпэўнасць: я амаль сляпая.

*Смаргонь.*

## КОЖНАМУ БЕЛАРУСУ — БЕЛАРУСКУЮ ГАЗЕТУ !

**Будзе жыць мова — будзе жыць Беларусь !**

Інфармацыя на III - IУ кв.1998г. Падпіска праводзіцца да 15.06.1998г.

| Індэкс | Назва перыядычнага выдання | Перыядычнасць | Кошт на 3 мес. | Кошт на 6 мес |
| --- | --- | --- | --- | --- |
| | **Газеты:** | | | |
| 63267 | Белавежская пушча | 1/2 м | 20 000 | 30 000 |
| 63854 | Голас Радзімы | 1 / т | 24 000 | 48 000 |
| 63850 | Звязда | 5 / т | 87 000 | 174 000 |
| 63875 | Культура | 1 / т | 42 000 | 84 000 |
| 63856 | Літаратура і мастацтва | 1 / т | 45 000 | 90 000 |
| 63125 | Наша Ніва | 2 / м | 72 000 | 144 000 |
| 63865 | Наша слова | 1 / т | 36 000 | 72 000 |
| 63124 | Пагоня | 2 / т | 120 000 | 240 000 |
| | **Часопісы:** | | | |
| 74820 | Беларусь | 6 / пг | 60 000 | 120 000 |
| 75021 | Беларуская мінуўшчына | 3 / пг | | |
| 74830 | Беларускі гістарычны часопіс | 2 / пг | 32 000 | 64 000 |
| 74822 | Бярозка (дзіцячы) | 6 / пг | 39 000 | 78 000 |
| 74844 | Вожык | 6 / пг | 36 000 | 72 000 |
| 74825 | Вясёлка (дзіцячы) | 6 / пг | 27 000 | 54 000 |
| 75086 | Лесавік (дзіцячы) | 3 / пг | 36 000 | 54 000 |
| | Лідзкі летапісец | 3/ пг | | 75 000 |
| 74957 | Маладосць | 6 / пг | 60 000 | 120 000 |
| 74958 | Мастацтва | 6 / пг | 150 000 | 300 000 |
| 74985 | Полымя | 6 / пг | 75 000 | 150 000 |
| 74823 | Роднае слова | 6 / пг | 60 000 | 120 000 |
| 74926 | Родная прырода | 3 / пг | 40 000 | 60 000 |
| 74982 | Спадчына | 3 / пг | 94 000 | 141 000 |
| | **Двухмоўныя дэмакратычныя газеты :** | | | |
| 63222 | Народная воля | 5 / т | 135 000 | 270 000 |
| 63312 | Навіны | 3 / т | 120 000 | 240 000 |

## БЕЛАРУСКІЯ ГАЗЕТЫ І ЧАСОПІСЫ ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ.

| Індэкс | Назва | Перыядычнасць | Кошт на 3 мес | Кошт на 6 мес |
| --- | --- | --- | --- | --- |
| | **Газеты:** | | | |
| 63877 | **Раніца.** Для дзяцей і падлеткаў | 1 / т | 7 200 | 14 400 |
| 63865 | **Наша Слова.** Для дзяцей старэйшага ўзросту | 1 / т | 36 000 | 72 000 |
| | **Часопісы:** | | | |
| 74822 | **Бярозка**. Для дзяцей малодшага і сярэдняга ўзросту | 6 / пг | 39 000 | 78 000 |
| 74845 | **Вясёлка**. Для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту | 6 / пг | 27 000 | 54 000 |
| 75086 | **Лесавік.** Для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту | 3 / пг | 36 000 | 54 000 |

## ЗАЛАТАЯ БІБЛІЯТЭКА БЕЛАРУСІ

На Беларусі ўпершыню ў гісторыі распачата выданне унікальнай 200-томнай кніжнай серыі — **БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР**

У гэтае серыйнае выданне ўвойдзе ўсё лепшае, усё самае важнае, што было створана на беларускай зямлі ад старажытнасці да нашых дзён. Апрача беларускіх аўтараў тут будуць прадстаўлены пісьменнікі іншых краін, якія так ці інакш былі звязаны з Беларуссю і цікава расказалі пра яе ў сваіх кнігах. У серыі раскрыецца ўся тысячагадовая гісторыя нашай Бацькаўшчыны.



ФІЛАМАТЫ
І ФІЛАРЭТЫ
Зборнік

УЛАДЗІМІР
ЖЫЛКА
Выбраныя
творы

"Беларускі кнігазбор" складаецца з дзвюх серый, У першую ("бардовую") увойдуць творы мастацкай літаратуры, у другую ("зяленую") — гісторыка - літаратурныя помнікі. Апрача выдадзеных ужо кніг (якія яшчэ будуць перавыдавацца) чытача чакаюць сустрэчы з жывым словам Кірылы Тураўскага, Францішкі Скарыны, Сымона Буднага. Міхалона Ліцвіна, Міколы Гусоўскага, Яна Вісліцкага, Сімяёна Полацкага і іншых славутых пісьменнікаў старажытнасці. Упершыню шырока будзе паказана літаратура Беларусі і пра Беларусь ХУІІІ — XIX ст. Выйдуць аднатомнікі твораў Францішка Князьніна. Францішка Багамольца, Юльяна Нямцэвіча, Адама Міцкевіча, Юзафа Крашэўскага. Евы Фялінскай, Яна Баршчэўскага, Ігната Дамейкі, Элізы Ажэшка, Адама Плуга, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Францішка Багушэвіча, Аляксандра Ельскага, Паўла Шпілеўскага, Фадзея Булгарына і інш. Вялікае месца зойме тут і айчынная літаратура XX ст., пачынаючы ад творчасці Ядвігіна Ш., Янкі Купалы і заканчваючы творамі нашых сучаснікаў. Зацікавяць чытача і гісторыка-літаратурныя помнікі — "Гісторыя літоўскага народа" Тэадора Нарбута, "Апісанне Барысаўскага павета" Яўстаха Тышкевіча, "Беларускія старажытнасці" Аляксандра Семянтоўскага, "Віцебская Беларусь" Мікалая Нікіфароўскага, "Вілія і яе берагі" Канстанціна Тышкевіча, "Віцебская даўніна" Аляксея Сапунова, "Беларускі народ" Міхала Федароўскага, "Беларусы - палешукі" Аляксандра Сержпутоўскага, "Славяншчына перад хрысціянствам" Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага, "Беларусы" Яўхіма Карскага, "Народная культура славян" Казіміра Машынскага, "Смаленскі этнаграфічны зборнік" Уладзіміра Дабравольскага, "Рэчыцкае Палессе" Чэслава Пяткевіча, "Зямля пад белымі крыламі" Уладзіміра Караткевіча і многія іншыя.

Той, хто пачне збіраць кнігі гэтай прэстыжнай серыі, стане ўладальнікам каштоўнага скарбу — невычэрпнай крыніцы ведаў і духоўнага ўзбагачэння для кожнай сям'і.

Не прамарудзьце з набыццём тамоў "Беларускага кнігазбору": тыраж іх абмежаваны!

Калі вы жадаеце рэгулярна атрымліваць тамы залатой бібліятэкі Беларусі, просім звяртацца ў мясцовыя аддзяленні сувязі, дзе вы зможаце аформіць заказ на кнігі серыі і азнаёміцца з планам іх выдання на бліжэйшы час.

МФ "Беларускі кнігазбор" 220005, г.Мінск, а/с 185, тэл. 220-70-27

# ЧАГО ВАМ ХОЧАЦЦА, АЎРУЦІН І К?!

Будучы ў тэрміновай пабыўцы ў Менску я меў магчымасць чытаць амаль усе газеты, якія выдаюцца ў сталіцы краіны. Неазброеным вокам заўважыў, што ў такой газеце, як "Рэспубліка", якая выдаецца на "беларускай і рускай мовах" на мове карэннага народа краіны ў ёй толькі назва газеты, - усё астатняе — спрэс на расейскай мове! Тое ж самае ў так званай "Народнай газеце" і шэрагу іншых. А "Вячэрняга Мінска" увогуле не існуе па-беларуску, але "чамусьці" на апошняй старонцы, там, дзе падаюцца даныя пра мову газеты чорным па беламу напісана, што яна " выдаецца на рускай і беларускай мовах", як кажуць, непрыхаванае фарысейства і нічога больш! Навошта ўсё гэта ?! Каму патрэбны гэты падман ?! Ці не такім вось "товарищам", прыехаўшым з расейскіх абшараў "творить" на беларускай зямлі па-руску, як Аўруцін Анатоль — член Саюза пісьменнікаў Беларусі, які ў 9 нумары газеты "Белоруссия" інтэрвуе Генадзя Бураўкіна, а ў 24-25 нумары (здвоеным) газеты "Рэспубліка" абураецца "парадоксамі сучаснага двухмоўя" (што гэта за "парадоксы" мы зараз убачым!)

Абодва выступленні расейскамоўнага пісьменніка ў газетах выйшлі 3-га і 4-га лютага, у іх шмат чаго "перепевается" — перапевы, відаць, своеасаблівы "канёк" згаданага таварыша ...

... Узяцца мяне за гэты ліст у паважаную мною газету прымусіла непрыхаванае нахабства А. Аўруціна, якое так і выпірае са старонак газет. І мне зусім незразумелай падалася пазіцыя Генадзя Бураўкіна — вядомага паэта, а зараз яшчэ і чалавека, які павінен абараняць беларускую мову, як Старшыня таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны: ён увесь час у інтэрвію апраўдваецца перад ваяўнічым нахабствам Аўруціна ! Не апраўдвацца трэба, шаноўны спадар Бураўкін, а паказваць, хто гаспадар у Беларусі: яе карэнны народ ці прышлыя "шукальнікі шчасця", якім не сядзелася ў сябе на радзіме, і якія зараз дапамагаюць мясцовым манкрутам праводзіць шалёную русіфікацыю (гляньце на тыя ж шыльды менскіх крамаў — ад беларускамоўных, якія з'явіліся ў 1992 - 94 гадах, хутка застануцца "рожкі ды ножкі": тут сапраўдныя парадоксы "сучаснага двухмоўя", калі на адным і тым жа гастраноме вісяць дзве велізарныя шыльды на рускай мове) на плошчы Перамогі, непадалёк ад рэдакцыі "ЛІМ"-а і Таварыства беларускай мовы ...). Але Аўруцін і К гэтага не заўважае, таму што у яго і яго славянасабораўскіх братоў іншая мэта: асіміляцыя карэннага насельніцтва, знішчэнне беларускай мовы ! ... Што ж прымушае мяне так думаць ? А ўсе тыя ж інтэрвію ў "Белоруссии" і разважанні ў "Рэспубліцы", да якіх я зараз вас, шаноўныя чытачы, і адпраўлю ў "падарожжа" !

Гэта ж трэба да якога нахабнага цынізму дайсці, каб на ўсю зрусіфікаваную краіну са старонак "парадаксальнай" (з пагляду мовы!) газеты "Рэспубліка" заявіць наступнае: "В Беларуси, несмотря на узаконенное референдумом равноправие русского и белорусского языков, сложилась парадоксальнейшая для страны ситуация с положением в ней русской, русскоязычной литературы, практически оказавшейся на грани вымирания"? ! Рускім шавіністам, аказваецца, як костка ў горле сталі выдавецтвы "Мастацкая літаратура" і "Юнацтва", якія "неуклонно сокрашают выпуск книг, живушчих в Беларуси русскоязычных авторов" : Аўруціну і яго расейскамоўным братам па пяру, аказваецца, не вядома, што беларускамоўныя аўтары ў гэтых самых выдавецтвах таксама чакаюць па пяць і больш гадоў, каб выдаць свае кнігі. Таленавітая беларускамоўная паэтка Іна Снарская, якая жыве ў Палтаве ( сама родам з Полацка) можа пацвердзіць мае словы: рукапіс яе паэтычнага зборніка ўжо звыш пяць гадоў ляжыць у "Мастацкай літаратуры" ! Але ж ёй не прыйшло ў галаву лямантаваць са старонак газет, што ў гэтым вінаватыя "рускія пісьменнікі і руская мова" : усе мы добра разумеем цяжкае становішча згаданых выдавецтваў у дзяржаўным фінансаванні ... Кнігі ж друкуюць і прыватныя выдавецтвы, якіх распладзілася гэтулькі, што ўсіх і не пералічыць ! ! ! Дык чаму ж Вам, таварыш Аўруцін і К, не звярнуцца да паслуг гэтых выдавецтваў, якія 99% кніг выпускаюць на Вашай роднай мове ? ! Каб у гэтым упэўніцца, зайдзіце ў любую кнігарню сталіцы ці правінцыі ... Безумоўна, прыватныя выдавецтвы не возьмуцца выдаваць вершаплёцтва, няхай сабе напісанае і па-расейску: вось дзе, як кажуць, сабака і закапаны ! А тое, што і "Юнацтва" , і "мастацкая літаратура" друкавала і друкуе творы расейскіх пісьменнікаў, дзе б яны ні жылі — у Беларусі ці Расеі, але творы сапраўды высокамастацкія, дастаткова пагартаць планы выдавецтваў за апошнія дзесяць гадоў: кажу гэта як чалавек, які мае дачыненне (меў!) да кнігавыдавецкай справы і гандлю кнігамі! Уся Ваша "рыторыка" разлічана на недасведчаных у гэтай справе чытачоў газеты каб падняць новы віток беларусафобіі, каб знішчыць і беларускамоўнае кнігавыданне, якое сёння ледзь дыхае на ладан! У сваім артыкуле ў "Рэспубліцы" А. Аўруцін "дагаварыўся" да наступнага "пасажа": " ... Между тем Беларусь традиционно богата именно талантами, исконно оставлявшими след в русской культуре", называючы імёны Сімяёна Полацкага, "бацьку" рускага сімвалізма і паэзіі Мікалая Мінскага, "піянера" рынкавай журналістыкі Фадзея Булгарына, "вядомейшых" рускіх крытыкаў Сцяпана Дудышкіна і Ангела Багдановіча, "замечательных представителей литературы русского зарубежья" — Ірыну Сабураву, Валерыя Пералешына, Марыю Волкаву, і яшчэ цэлы стос "паэтов более поздней поры" ... Не разумею, што гэтым самым пералікам вядомых і не вельмі вядомых расейскамоўных паэтаў і празаікаў хацеў сказаць А. Аўруцін у дачыненні да "парадоксаў сучаснага двухмоўя"( а менавіта такі загаловак мае яго допіс у "Рэспубліцы") ? ! Ну былі такія, ну тварылі, увайшлі ў гісторыю літаратуры, — гонар ім і слава, памяць ... А хто Вам і іншым расейскамоўным перашкаджае друкавацца ў выдавецтвах Масквы, Санкт-Пецярбурга, Смаленска, дзе не друкуюць беларускамоўных паэтаў і празаікаў, якія пражываюць у Расеі ? ! Чаму Вы не пішаце у "Литературную Россию", "Литературную газету", "Правду", "Знамя", "Октябрь", "Новый мир", "Неву", "Наш Современник", "Огонёк" и прочие-прочие літаратурныя выданні, якіх у саюзнай Расіі "відзьма-нявідзьма" ? ! Што Вы "скуголіце" аб "вымирании русскоязычной литературы" ? ! Не аб ёй трэба, прабачце, "скуголіць" сёння ў Беларусі, а аб гаротным стане беларускамоўнага кнігадрукавання, якое сёння аказалася сапраўды на грані вымірання ! !

Калі Вы такі масціты і таленавіты аўтар, то Вам з задавальненнем прадставяць свае старонкі расейскія літаратурныя выданні ў Расеі, якая зараз проста абавязанна вас, расейскамоўных, друкаваць: яна ж з Беларуссю ў "саюзе" ... А беларускім выдавецтвам хацця б змагчы выдаваць ужо сваіх родненькіх беларускамоўных аўтараў: іх жа Расея выдаваць па-беларуску не будзе, пакуль там беларуская мова не стане другой дзяржаўнай мовай "союзного государства" ! .. А тое, што гэтага не дапусцяць шавіністы і беларусафобы, можна нават і не сумнявацца, калі яны нават на беларускай зямлі ўсё топчуць беларускамоўнае; у сваім допісе Вы нават адзіным словам не ўспомнілі аніводнага беларускамоўнага паэта або празаіка, якія вядомы ўсякаму культурнаму свету, льяце "кракадзілавы" слёзы аб кануўшых у лету расейскамоўных часопісах "Парус", "Родник", "Салон", "Личная жизнь", дзе можна было друкаваць усё, што напішацца, зарабляючы добрыя ганарары ... А Вы загляніце ў кіёскі "Белпошты": на месцы гэтых "кануўшых у бездань" часопісаў прыйшлі дзесяткі, калі не сотні іншых падобных на іх бульварных газетак і часопісаў, — і ўсе спрэс па-расейску ! У гэтым расейскамоўным газетна - часопісным "моры" цяжка ўгледзяць нешта па-беларуску, ва ўсялякім разе я за 5 дзён прабывання ў Менску ўбачыў у адным кіёску часопісы "Алеся" і "Вожык ", газеты "Чырвоная змена", "Звязда", "Настаўніцкая газета" ...

... Вы у сваім артыкуле вельмі "перажываеце" за маладое пакаленне расейскамоўных літаратараў, сярод якіх "обилие самобытных дарований", якім цяжка патрапіць ... у Саюз пісьменнікаў Беларусі (туды прыймаюць тых, хто выдаў некалькі кніг ...). І вось гэтыя "самабытныя дарования", "укрепившись в мысли, что "официальной" литературе они в ближайшее время вряд ли понадобятся" ..., "начинают создавать нечто вроде альтернативных писательских обьединений" ... А хіба гэта дрэнна ? ! Беларускамоўныя "маладыя дараванні" таксама гэта робяць, няўжо гэта Вам, такому масцітаму, невядома ? ! І дарэчы, у Полацку, у тым самым, дзе апякаемыя Вамі на старонках "Рэспублікі" "самобытные дарования" аб'ядналіся ў "Полоцкой ветви" ... Але ж Вы, таварыш А. Аўруцін самі ў канцы свайго допіса выносіце "прысуд" гэтым "дарованиям" : "Можно, разумеется, говорить о "сырости" произведений большинства входяших в литсоюз ("Полоцкая ветвь") авторов , но что поделаешь, если в республике их никто и никогда не пытался наставить на путь истинный в слове " ? Прызнаюся шчыра, я ўпершыню ад А.Аўруціна даведаўся пра гэты полацкі "літсаюз", і магу сабе толькі ўявіць, што ж гэта там сабраліся за такія "обильные самобытные дарования", якія не зусім у ладах з ... расейскай школай літаратурнай творчасці, якую ў Беларусі сёння "олицетворяет" таварыш А.Аўруцін ! ! ! Чаму ж гэта б Вам і не ўзяцца на практыцы павучыць гэтых расейскамоўных тварцоў, наставіць іх на "путь истинный в слове"? !

А Вам не здаецца, што народжаныя ў Беларусі, яны не могуць "шевелить мозгами" глабальна ад Смаленска да Камчаткі ? ! Гавораць па-руску, але ж жывуць не ў Расіі, — няўжо не зразумела ? !

... Я не стаў шмат увагі надаваць у сваім допісе зместу інтэрвію ў газеце "Белоруссия", таму што там шмат чаго "перацягваецца" з допіса Аўруціна ў "Рэспубліцы", бо мэта ў яго адна: Усчыніць чарговую шуміху вакол надуманага беларусафобамі і расейскімі шавіністамі "прыцяснення расейскай мовы і расейскамоўных", на гэты раз — "літаратараў"... Беларускай творчай інтэлігенцыі не трэба расслабляцца, а трэба быць "на чаку": беларусафобі шавініст "не дремлет" ! ! !

***Пятрусь Капчык,***
***філолаг,***
***г.Ізяслаў, Украіна.***





# Кнігі "Северо-западного края"

З 18 па 20 лютага ў Менску праходзіў Міжнародны менскі кніжны кірмаш. Мае нататкі вельмі суб'ектыўныя, бо бракавала часу, каб усё як след разгледзець, усё ацаніць. Тым не менш, думаю, яны будуць цікавымі для тых, хто не быў на гэтай выставе.

Хоць называўся кірмаш міжнародным, пераважная большасць выдавецтваў, паліграфічных прадпрыемстваў і распаўсюднікаў літаратуры былі з дзвух краін: Беларусі і Расіі. Што да беларускай экспазіцыі, то ў рэйтынгу выдавецтваў фігуравалі 12 дзяржаўных выдавецтваў і 75 прыватных. Дзяржаўныя выдрукавалі 691 кнігу, а прыватныя - больш за тысячу, прычым накаторыя выдалі толькі па адной кнізе, а некаторыя - сотні. Нездарма рэйтынг быў падзелены на дзве часткі, бо сапраўды экспазіцыі дзяржаўных і прыватных выдавецтваў істотна адрозніваліся. Дзяржаўныя выдавецтвы выглядалі даволі сціпла, што да якасці, мастацкага афармлення і колькасці выданняў. Прадукцыя прыватных выдавецтваў вызначалася добрай паліграфіяй, прыгожым афармленнем. Праўда можна было заўважыць беднасць тэматыкі: дзіцячая літаратура, дэтэктывы і іншая забаўляльная літаратура, падручнікі і кампутарная літаратура. Калі ў беларускай частцы экспазіцыі і траплялiся кнігі па філасофіі, сур'ёзная літа-ратура, навуковыя выданні, кнігі па медыцыне, то, у асноўным, гэта была расейская прадукцыя, якую экспанавалі беларускія распаўсюджвальнікі.

Гэтая акалічнасць шмат гаворыць пра стан нашага грамадства: сур'ёзная кніга аказваецца незапатрабаванай. Яшчэ адно пацверджанне гэтаму знайшоў, калі спытаўся ў прадстаўніцы эстонскага выдавецтва, якая прапаноўвала ў прыватнасці кнігі Б. Парамонава: «Ці хто з беларускіх распаўсюднікаў зацікавіўся гэтай літаратурай?». Не. Між тым яны маглі быць бестселерамі ў інтэлектуальнай часткі грамадства. Ці то гэтых інтэлектуалаў няма ў Беларусі, ці то іх не прымаюць у разлік, як не прымаюць у разлік беларускую мову.

Сярод многіх сотняў кніг прыватных выдавецтваў мне ўдалося заўважыць менш дзесятка кніг па-беларуску: «Экзамен па беларускай літаратуры», "Гісторыя філасофіі", «Казкі жыцця» Я. Коласа, "Беларусазнаўства", дапаможнік па гісторыі, падручнік па крыміналістыцы. Дапускаю, што чагосці я не ўбачыў, але гэта не мяняе агульнай карціны. Прыемным выключэннем выглядае выдавецтва «Асар», якое выдае школьныя прадручнікі і кнігі серыі «Школьная бібліятэка». У іх экспазіцыі годна пачувалася беларуская мова. Адметныя якасць падручнікаў і іх мастацкае афармленне. Па такіх падручніках хочацца вучыцца. Дарэчы, у серыі «Школьная бібліятэка» выпушчаны зборнік, прысвечаны Мак-сіму Багдановічу, раман Сянкевіча «Крыжакі» і томік перакладаў з Шаўчэнкі. Апошняя кніга, захаваўшы эмблему «Школьнай бібліятэкі», мае арыгінальную і прыгожую вокладку. Як можна заўважыць, усе гэтыя выданні за выключэннем «Казак жыцця» - навучальная літаратура.

Што да дзяржаўных выдавецтваў, то тэматыка іх кніг шырэйшая: арыгінальная навуковая літаратура, кнігі па мастацтву, энцыклапедыі. Доля беларускамоўнай літаратуры таксама большая, але зноў жа коштам навучальнай літаратуры. Напрыклад, каб не дзве кнігі з серыі «Школьная бібліятэка», дык у экспазіцыі выдавецтва «Ураджай» не было б кніг па-беларуску. Ад выставак падобнага кшталту звычайна чакаеш калі не новых літаратурных адкрыццяў, дык хаця б новых кніг папулярных аўтараў, новых перакладаў. Дык вось такіх навінак, якія хацелася б набыць, у прадукцыі дзяржаўных выдавецтваў амаль не было, за выключэннем, можа быць, кнігі твораў Дантэ Аліг'еры.

На жаль, у рэйтынгу не падавалася, якая частка кніжнай прадукцыі выпускаецца па-беларуску. Калі меркаваць па выставе, то 1-2%. Вельмі паказальна, як аднесліся арганізатары кірмашу да дзяржаўнай беларускай мовы: пры ўваходзе вас сустракала назва «Минская международная книжная ярмарка», назвы ўсіх фірм - па-руску. Больш таго, арганізатары не здолелі без памылак напісаць прозвішча класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа. На шыльдзе паліграфкамбіната было напісана: «Производственно-полиграфическое предприятие им. Я. Колоса». Спытаўся ў жанчыны, што была пры экспазіцыі: «Вам не сорамна сядзець пад шыльдай з памылкай?». Адказала, што сорамна, але яна ў гэтым не вінаватая. Вельмі па-беларуску - абыякавасць і поўная адсутнасць нацыянальнага гонару. Беларускую частку экспазіцыі вянчаў чырвоны транспарант на зялёным фоне «Книги Беларуси». На маю ж думку, тут дарэчы быў бы надпіс «Книги Северо-западного края».

Пасля наведвання гэтай выставы ўзнікае пытанне, чаму беларуская мова выцясняецца з кнігавыдавецтва? Можна, канечне, дапусціць, што некаторыя выдаўцы проста ненавідзяць беларускую мову. Але, думаю, такіх нямнога. Можа, з прагматычных меркаванняў?

Так, многія выдавецтвы арыентуюцца на расійскі рынак. Але гэтым усё не вытлумачыш. Чым можна растлумачыць, што пры наяўнасці некалькіх тысячаў вельмі актыўных беларускамоўных чытачоў, кнігавыдаўцы іх не заўважаюць. Ну добра, ты працуеш на расійскі рынак, але сярод сотні кніг можаш выдаць дзесятак па-беларуску для свайго народа, хоць бы з-за таго, што ты беларус, а не перакаці-поле.

Яшчэ адна дзіўная з'ява. Сярод шматлікіх кніг з казкамі не знайшоў беларускіх, хоць бы і на рускай мове. Напрыклад, выдавецтва "Сказ" друкуе "Про Иванушку дурачка", "По щучьему велению" і інш. Няўжо іх мала надрукавана расейскімі выдавецтвамі? А чаму б не выдаць па-руску беларускія казкі, якія, як казаў вядомы даследчык і знаўца рускіх, украінскіх, беларускіх і башкірскіх казак Бараг: "па жывасці і прыгажосці апавядання не маюць сабе роўных".

Здаровай логікай не растлумачыш непрыяцце большасцю выдаўцоў беларускай мовы і літаратуры. Відаць, трэба звяртацца да старога Фрэйда, які знаходзіў матывы паводзінаў людзей у іх падсвядомасці, у комплексах, закладзеных у дзяцінстве. Відаць многім моцна ўбіты ў галаву комплекс беларускай непаўнацэннасці. Я ўяўляю, як вучня (будучага нашага выдаўца) некалі павучала прыгожая настаўніца, у якую былі закаханыя ўсе хлопчыкі класа: "Ну почему же ты до сих пор не научился правильно разговаривать по-русски!" Хоць праз зямлю праваліся! Гэта запаміналася на ўсё жыццё... Ці, можа, было ўсё значна банальней. Проста твой жа аднагодак сказаў табе: "Эй, ты, дзяроўня!" І замест таго, каб годна адказаць крыўдзіцелю-недавумку, ты, звесіўшы нос, падумаў, што ўсё беларускае дрэннае. Так з надломам жывеш і дасюль, часта нават сабе не прызнаючыся ў гэтым.

Н. Мянчук

# Каб беларуская мова і кніга не сталі музейнымі экспанатамі! ...

Два гады таму на Століншчыне — у вёсцы Цераблічы — адбылося ўрачыстае адкрыццё бібліятэкі - музея. Яго стваральнік — выпускнік Магілёўскага бібліятэчнага тэхнікума і вядомы ў рэспубліцы і за яе межамі самавук - разьбяр па дрэве Іван Піліпавіч Супрунчык. Ён апавядае:

— Думка аб стварэнні бібліятэкі - музея мясцовых абрадаў і звычаяў наспела даўно. Сам не сумняваюся ў роднасці гэтых асяродкаў культуры і хачу пераканаць у гэтым іншых. Была затрымка з-за адсутнасці памяшкання. Ды, як ні дзіўна, на нас спрацавала "перабудова": у цэнтры вёскі вызвалілася дыхтоўнае памяшканне (120 кв.м?) філіяла Пінскай трыкатажнай фабрыкі, і мясцовы калгас (старшыня М.С.Бурда) дружалюбна перадаў яго нам. Знаходжу паразуменне і падтрымку з боку старшыні выканкама Расельскага сельскага Савета М.П. Шпакевіча. Аднавяскоўцы захавалі і дармова перадалі шматлікія старадаўнія рэчы хатняга ўжытку і прылады працы: Адзенне і абутак (світкі-накіткі, лапці), жорны і кросны, саху і ступу, грэбень - поцязь вырабу 1778 года, лажбень для збору мёду, комін (для абрада "Жаніцьба коміна"), колішнія рыбацкія снасці, перапіску са сваякамі і інш. Здаецца, усё вядомае, ужо не раз апрабаванае. Ды гэта не зусім так, дакладней, зусім не так.

Справа ў тым, што бібліятэка - музей не стандартны шаблонны — ён адмысловы і своеасаблівы. Бо ў ім адчуваецца повязь стагоддзяў: тут экспанаты даўніны "парадніліся" з кнігамі, сучаснымі скульптурамі і нават цэлымі драўлянымі тэматычнымі кампазіцыямі знакамі-тага чарадзея сякеры. Гэта скульптура селяніна ў нацыянальным адзенні з прыладамі працы; "Дрэва жыцця" (стварэнне свету); "Дзяцінства, юнацтва, старасць"; "Давыдгарадоцкія "Конікі" (шчадрэц)"; "Маці ў жалобе" са спісах загінуўшых у гады Вялікай Айчыннай вайны аднавяскоўцаў, у тым ліку і бацькі "разьбяра" — Піліпа Фядотавіча; "Жаніцьба коміна", "Вядзенне куста" і інш. Гэта "жывы" музей, ці жыццё ў трох яго вымярэннях — мінулым, сучасным, будучым (так-так, работы майстра скіраваны і ў трэцяе тысячагоддзе!) . Можа, у ім няма паслядоўнай тэматыкі ды набіўшых аскоміну раздзелаў, затое ёсць Яго Вялікасць Жыццё з яго пераемнасцю часоў і пакаленняў. А гэта ж менавіта і ёсць альма-матэр сапраўднага музея. Як нельга зпітаванае жыццё раздрабіць, раскласці па паліцах, так нельга, нямэтазгодна, на думку Івана Піліпавіча, "расфасаваць" і начынне музея.

Стваральніку бібліятэкі - музея не патрэбна рэклама. Персанальныя выставы работаў І. Супрунчыка былі ў Берасці і Менску, Гомелі і Гродні, Кіеве і Маскве. Ды і нездарма сярод дасведчых і аўтарытэтных майстроў-разьбяроў ідзе гамонне пра Школу Супрунчыка". Аб ім паведамляюць выданні: "Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі" т.5, 1987 г. і "Звод помнікаў гісторыі і культуры Беларусі" 1990 г.; "Памяць. Беларусь" 1995 г.; "Беларусь" (энцыклапедычны даведнік) 1995 г. і інш. Ён прыняў удзел у стварэнні мемарыяльнага комплекса "Коласаўскі шлях" у Коласаўскім запаведніку, комплекса паркавай культуры ў Навагрудку. Ім жа створана цудоўная драўляная скульптура Адама Міцкевіча да 200 - годдзя славутага паэта.

У бібліятэцы-музеі пабывалі госці з Галандыі, Германіі, Італіі, гарадоў Бярэсця і Менска і пакінулі свае ўхвальныя водгукі ў "Кнізе водгукаў і пажаданняў". Задаволенымі ад наведвання засталіся вучні і настаўнікі Веляніцкай, Рамельскай, Кароціцкай сярэдніх, Мачульскай і Цераблiцкай базавых школ, вайсковай часткі. Настаўнікі мясцовай школы праводзяць тут з вучнямі бібліятэчна-бібліяграфічныя ўрокі і ўрокі пазакласнага чытання.

Так і пасябравалі на Палессі кнігі з музеем. У добры час! Ды не дапусці, Божа, каб беларуская мова і кніга сталі музейнымі экспанатамі!

*Леанід Раманенка, выдатнік народнай асветы.*

*в.Рамель, Рамель Столінскага раёна, Берасцейскай вобласці.*

# Сержык

## Шпарнікі

Сержыку шэсць гадкоў. У школу ён яшчэ не ходзіць, але з чатырох гадоў ён чытае добра. Чытаць вывучыўся сам. Мы адно яму літары паказалі. Не гэтак даўно ён усім нам абвясціў, што, як вырасце, будзе беларускім прэзідэнтам і верне беларусам іх гістарычны сцяг, герб і кожнаму дасць не менш як па дзесяць мільёнаў.

Аднойчы я пацікавіўся ў яго , а адкуль ён будзе браць грошы, каб кожнаму па дзесяць мільёнаў даць? На гэта Сержык адказаў:

— Я яшчэ не ведаю. Але буду расці і думаць. Ну што ж адказ для чалавека яго веку годны. Мне тады падумалася: пагаварылі, пагулялі трохі "ў прэзідэнта" дый і забыліся. Але не. Па нейкім часе Сержык і кажа:

— Дзядулька! А я прыдумаў, адкуль буду браць грошы ...

Трэба, каб людзі працавалі хутка - хутка, шпарка, шпарка ... Раз - раз, усё зрабілі, парабілі, і грошы зарабілі ... Будзе мне, будзе ім, будзе і дзяржаве. І я іх буду называць шпарнікамі ...

Ці трэба казаць, што сама Сержыкава гаворка пра прэзідэнцтва мяне цешыць. А тут ён шчэ і слова новае прыдумаў — шпарнікі. За адно ўжо гэта ён, шасцігадовы, упісаў сваё імя ў нашу гісторыю. А хлопчыку ж яшчэ расці і расці ...

Памажы яму, Божа !

## КНІГАНОША

Пры ўправе Народнага фронту заўсёды быў і ёсць невялікі прылавачак з кнігамі. На гэты прылавачак неяк патрапіла з дзесятак і маіх "Свіранскіх крэсак". Выдала іх выдавецтва "Полымя" яшчэ ў 1995 годзе. Дык вось гэтыя кніжачкі так і ляжалі на згаданым прылаўку амаль нерухома не адзін год. Чаму ? Хто яго ведае. І кніжачка прывабная. Яна пра Багушэвіча. Тым не менш факт такі, што ляжала. Але неяк аднаго разу зайшлі мы з Сержыкам ва ўправу. Ён адразу угледзеў маю кніжачку.

— Дзядулька ! - радасна выгукнуў ён. — Гэта ж твая кніжачка !

— Ага, — кажу, — мая !

— А чаго яна ляжыць? Чаму яе не купляюць ?

— Не ведаю ... Можа не умеюць прадаваць ...

— А я ўмею ? — пацікавіўся ён.

— А паспрабуй! ... Сержык узяў з прылавачка кніжачкі і нырнуў за дзверы, дзе сабраліся сябры Управы. Праз хвіліны дзве вярнуўся радасны, шчаслівы. "Прадаў! Усе прадаў. І яшчэ прасілі, дык больш не было ...". Вось вам і Сержык. Дзе не павернецца, дык усё зробіцца хутка - хутка, шпарка - шпарка.



Уладзімір Содаль з Сержыкам

## СЕРЖЫКАВА КАЛЕКЦЫЯ

Гулялі мы неяк раз з Сержыкам. Ходзім так па прырэчнай нізовінцы, размаўляем. Радуемся цяплу, сонцу. Раптам Сержык пачаў збіраць кінутыя на траву пластмасавыя пасудзінкі з - пад розных напояў. Збіраў не ўсе запар, а толькі некаторыя. Падыме, прачытае, што на іх напісана, а пасля рашае, якія з іх ўзяць, а якія зноў кінуць.

— Сержык? — пытаюся я ў яго. — Навошта табе гэтыя пасудзінкі?

— А я , дзядулька, збіраю не ўсе, а толькі тыя, на якіх напісана нашаю моваю ... Я так шаную нашу мову, што не магу, каб пасудзінкі з нашымі словамі валяліся абы - дзе ... Каб па іх тапталіся ... Таму я іх збіраю ... Я буду з імі гуляцца, буду імі любавацца ...

Я пахваліў Сержыка за ягонае чуйнае сэрца, і сам пачаў дапамагаць яму збіраць такія пасудзінкі. А ў Сержыкавых руках ужо былі прыгожа размаляваны пасудзінкі з словамі "Напой", "Паляўнічы", "Мускатны", "Напітак пладовы", "Белая Вежа"! ... Сержык устаўляў іх адна ў адну, і ў яго склалася прыгожая пірамідка з пасудзінак і з нашых родных слоў. Нам абодвум было на душы радасна і прыемна.

## ГАЛАВЕШКА ... АД ГАЛАВЫ

От гэты Сержык! Такі ўжо неўгамон ! Такі ўжо няўрымса ! Кожнага дня мяне засыпае сваімі чаму? Іншы раз гэтыя ягоныя "чаму?" і не такія ўжо цяжкія, але адказаць на іх не так і проста. Ну от і гэтым разам. Сядзім з ім на ўзлесачку, цяпельца расклалі, бульбу пячэм. Сядзім, гамонім. Дроўцы падкідаем у вогнішча. Усё нібыта нам зразумела. Раптам я кажу:

— Сержык! Падкінь вунь тую галавешку, што адвалілася, на вогнішча. Сержык зразумець мяне зразумеў, зрабіў так, як я прасіў, але тут жа нечакана запытаўся:

— Дзядулька ! А чаму гэта гапавешка завецца гала-вешкай ? Вось табе і маеш ! А напраўду: чаму гэта галавешка завецца галавешкай ?

Доўга я думаў і ні да чога дадумацца не мог. А Сержык жа не можа доўга чакаць, сам спрабуе дабрацца да сэнсу.

— А што — мо галавешка ад галавы? — кажа ён.

Я здзіўлёна хмыкнуў: бач які ў мяне гэты Сержык кемны:

— Можа і ад галавы, можа ты і праўду кажаш, — пагаджаюся я. І пра галаву кажуць галавешка ... Калі чыя - небудзь галава нешта забываецца, то пра яе кажуць: "не галава, а галавешка". І калі баліць, то пра галаву гавораць: "не галава, а галавешка". А балець галава можа і ад галавешкі. Калі гэтая галавешка ў печы курае, а комін зачыніць, то з тае галавешкі на хату чад ідзе. Такі непрыкметны сіненькі дымок. Галава ад яго чадзее. Мо за гэта недагарэлую драўніну і завуць галавешкай, што ад яе галава баліць ? Хіба што так.

Сержыку такі ход нашых думак, нашых разваг падабаецца. Але тут зноў пытанне: а як чадзее галава? Але гэта ўжо іншая размова. Галоўнае: мы неяк з Сержыкам намацалі, чаму галавешка завецца галавешкай. А гэта ўжо нямала.

***Уладзімір Содаль***

# Паданне пра Магілёў

Свеціць сярэбраны месяц з чыстага неба і святлом сваім залівае лясы і горы, рэчкі і ўзгоркі. Песціцца і млее ўся зямля, і мацней пануе на ёй палкая, гарачая любоў. Гучней стукае сэрца ў чалавека, гарачэйшая робіцца кроў, рукі цягнуцца для пяшчотных абдымкаў, вусны шукаюць пацалунка. Сядзіць пад запаветным дубам добры малойца Машэка, глядзіць у сярэбраную далеч і думае думку пра сваю любу, пра мілую Прадславу. Запёрта яна, бедная, цяпер у душным палацы за сямю замкамі і не выйсці ёй адтуль. Баліць у яе сэрцайка, ірвецца да дружка сардэчнага, і не ведае яна, што сядзіць ён недалёка ад яе палаца і думачку думае сваю: "Ах, люба, люба мая Прадслава, сонейка краснае, каб ты была тут побач, каб прыйшла ды суцешыла мяне, сіраціначку.

Раптам, нібы светлая хмарачка на небе, выплыла з бліскучай імглы белая здань жанчыны. Ускочыў Машэка: пазнаў ён сваю Прадславу, і вокліч захаплення гатовы быў ужо зляцець з яго вуснаў. Але ў гэтае імгненне з той самай імглы паказалася іншая постаць, чорная, з бліскучым шышаком на галаве. Пацямнела ў вачах у Машэкі. Нібы ў сне бачыў ён, як кінулася Прадслава ў абдымкі да чорнага рыцара і як вусны іх зліліся ў пацалунку. Падскочыў ён да здрадніцы і толькі тады схамянуўся, калі кроў суперніка пралілася на зямлю. Бледная, дрыжучы, стаяла перад ім Прадслава, і такой бездапаможнаю здалася яна Машэку, што ён не пажадаў нават забіць яе і, адвярнуўшыся, пайшоў у белы свет. Ішоў ён доўга, і чым далей ішоў, тым усё зласнейшы рабіўся супраць усяго роду чалавечага, усё мацней разгаралася ў ім прага да помсты. І гатовы ён ужо быў затапіць увесь свет крывёю людской. Так дабрыў да правага берага Дняпра, да Гвоздаўкі, страшнага логава разбойніка Гвозда.

Укленчыў перад ім і сказаў: — Вазьмі мяне Гвозд, да сябе, не пасрамлю цябе і твайго рамяства. Прывяла мяне сюды злоба лютая і помста страшэнная, і даю я табе зарок вялікі — не шкадаваць ніводнай душы жывой, а калі пашкадую каго, дык няхай я ад таго і загіну. — Добра, - сказаў Гвозд, — ідзі за роў і працуй. Пайшоў Машэка на другі бераг рова, заснаваў там сваё логавішча, назваў яе Машэйкаўкаю і стаў наводзіць жах на ўвесь Край. Мучыў і забіваў ён няшчасных падарожнікаў, рагатаў з іх просьбаў, здекаваўся з іх слёз, не шкадаваў ні кога: ні старых, ні дзяцей, ні мужчын, ні жанчын. Памёр даўно ўжо Гвозд, а Машэка за абодвух працягваў паліць і рабаваць, забіваць і мучыць. Але не мог крывёю затапіць сваіх пакут: любы вобраз часта паўставаў перад ім у начной цішы, і плакаў тады люты Машэка, бы малое дзіця, і праклінаў свой злы лёс. Была такая месячная ноч, як тады, калі апошні раз ён бачыў сваю мілую. Сядзеў Машэка на камені, журботна звесіўшы галаву на грудзі, лёгкі ветрык гуляў над пасівелымі яго валасамі, і слёзы адна за другою буйнымі дыяментамі падалі на зямлю і зліваліся з расою.

Раптам пачуліся конскі тупат, галасы і шум, і праз хвіліну яго зграя прывяла двух новых палоннікаў.

— Як іх пакараць ? — пытаюць у яго малойцы. Але Машэка маўчаў і няўцямнымі вачыма глядзеў на жанчыну, што стаяла перад ім. Гэта была яна, Прадслава. Наэшце, нібы апрытомнеўшы, правёў леваю рукою па ілбе, правай махнуў на спадарожніка Прадславы і, абняўшы сваю любу, павёў яе ў будан. Тут укленчыў перад ёю і пачаў цалаваць яе рукі, і плакаць, і смяяцца і папракаць.

— Не палюбоўніка майго забіў ты, — сказала яна, — а забіў брата майго, які быў пасва-рыўшыся з бацькам і патаемна са мною бачыўся. Але я дара-вала табе, мой любы. Доўга я чакала цябе.

Кінь свой страшэнны занятак і ўцякайма. Уцякайма туды, дзе ніхто нас не ведае.

— Бяжым, бяжым, мая люба. Бяжым заўтра, а сёння дай адпачыць з табою разам ад столькіх жахаў і пакут.

— Добра, — сказала Прадслава.

Але не доўга адпачываў Машэка. Толькі салодкі сон заплюшчыў яго павекі, як каварная люба ўткнула яму з усмешкаю ў горла востры нож.

— Памры, сабака, — прамовіла яна. — Хоць і загіну ад тваёй подлай чэлядзі, але я ведаю, што адпомсціла табе за сябе і за ўсіх. Прадслава не памылілася: закапалі яе жывую разам з забітым ёю Машэкам, а насыпаны над імі Курган быў названы Магілаю Льва.

Адсюль і горад, які ўзнік потым на гэтым месцы, пачаў называцца Магілёвам.

***Паданне запісаў ад людзей пад час вандроўкі ў Магілёў і апрацаваў Віктар Ягорочанка г. Менск.***

# АПОВЕСЦЬ ПРА СЛОВЫ

## Час, год, гадзіна

У адным з апошніх артыкулаў "Аповесці пра словы" мы разглядалі адзінкі часу: дзень і ноч, а таксама тыдзень і назвы дзён тыдня. Зараз прыйшоў час разгледзець больш буйныя адрэзкі часу: месяц, год і г.д. Але пачнём з самога слова ***час***. У беларускай мове яно мае найбольш старажытную аднаскладовую форму, у адрозненне ад расейскага ***время***. Аднаскладовую форму ***die Zeit*** мае слова час і ў нямецкай мове, ***timp*** — у румынскай, ***czas*** — у польскай і ў шмат іншых, хаця само па сабе азначэнне ***час*** абстрактнае і павінна было ўзнікнуць пазней чым словы: ***дзень, ноч***, але калі глянем на ўсе адрэзкі, то словы: ***год, век*** таксама аднаскладовыя, а вось месяц і тыдзень шматскладовыя. Такім чынам трэба меркаваць, што старажытны чалавек першым уразумеў сутнасць дня, ночы, года, веку і часу цалкам, а пасля ўжо месяца, тыдня, сутак, гадзіны, хвіліны і г.д. Пры гэтым век не трэба разумець як сто гадоў, а менавіта, як век чалавека, нейкі сярэдні адрэзак паміж годам і вечнасцю. Год у нас пацвярждаецца і іншымі мовамі: нямецкай - ***das Jahr,*** польскай - ***rok*** і г.д.. Гэта цалкам зразумела, бо каб заўважыць змены поры года не трэба было глядзець на неба і лічыць квадры месяца. Але вернемся да часу. Адкуль яно пайшло. Традыцыйны зварот да санскрыту на першы погляд нічога не дае. Тэрміну час найбольш адпавядае санскрыцкае - ***kala***. Але старажытныя арыі пад гэтым тэрмінам разумелі некалькі іншы час. Справа ў тым што арыі падзялялі ўвесь час на перыяды, эпохі і вось гэты перыяд абазначаецца ***kala***. Яны не гаварылі пра раку часу, а гаварылі пра кола часу ***kala - cakra.*** Зразумела, што з такіх складаных азначэнняў і зразумела позніх мы мала што возьмем. Нам трэба шукаць больш раннее і прасцейшае.

У старажытнасці не было дакладных азначэнняў гэтым адрэзкам. Год мог лічыцца ад любой пары і мог проста называцца кругам ***vara,*** ад якога пайшоў нямецкі ***Jahr***. ***Carad*** (шарад, чарад) абазначала восень, а ў множным ліку гэта ўжо гады.

Слова ***час***, як і зазначалася ў пачатку не магло ўзнікнуць раней іншых, таму што яно мае абстрактнае значэнне. Яно ўзнікла тады калі прыйшла яго пара. Людзі пачалі лічыць гады і вось тады спатрэбілася абазначыць тую колькасць, якую палічыць было цяжка. Узнік тэрмін ***многа: Cata (шата, чата)***. Гэты тэрмін даў беларускае ***шмат***. У санскрыце ён пазней увасобіўся ў лічбу ***сто***, але захаваў і першае значэнне ***шмат***. У дачыненні да гадоў ён у другім гучанні даў і нямецкае ***Zeit (цайт)*** і нашае ***часта*** і ***час***. Такім чынам ***час - гэта шмат гадоў***.

Што датычыць месяца то старажытныя арыі чамусьці звязалі гэты перыяд з зайцам ***Саса (шаша, чача)*** заяц, ***casi - kala — месяц casin — месяц***. Але ёсць і слова ***masa***, якое пазней і дало наш ***месяц***. ***Sanmasya*** — шэсць месяцаў, паўгоддзе.

Тыдзень у арыяў не меў нейкага рэлігійнага адцення і яны яго моцна не выдзялялі. Яны лічылі дні месяца напрыклад, ***sasthi*** — шосты дзень месяца, але маглі выдзеліць і меншыя перыяды дзён. Так звыклы нам тыдзень, перыяд у сем дзён у санскрыце гучыць, як ***sapta-ratra***, што гаворыць пра яго позняе і штучнае ўтварэнне.

Што датычыць малых перыядаў часу, то была такая адзінка як ***kala*** (нажаль ні беларускі ні лацінскі алфавіт не дазваляе правільна выразіць гучанне гэтага слова), гэтая ***kala*** раўнялася перыяду часу ад 8 секунд да 2,5 мінут, што дакладна адпавядае беларускай ***хвілі*** або ***хвіліне***, якую гвалтам прывязалі да 60 секунд. А ў народзе ***хвіля*** гэта даволі абстрактны адрэзак часу, які ніколі дакладна не вымяраўся.

Беларускае слова ***год*** хутчэй за ўсё звязана таксама з адным з санскрыцкіх словаў. Гэта можа бачыць слова ***adi*** - пачатак або ***adima*** - першы, якія з прыстаўной ***г*** даюць ***гадзі***, ***гадзіма***. Год і гадзіна ў беларускай мове ў абстрактных значэннях гэта адно і тое ж і абазначаюць толькі перыяд часу блізкі да году, гадзіна, як 1/24 частка сутак, была зязана значна пазней, праўда раней за хвіліну. Сэнсава гэта пачатак новага перыяду.

Звыклая нам ***гадзіна*** на санскрыце гучыць як ***hora*** і абазначае ў дадатак да гадзіны яшчэ і гараскоп. ***hora - castra*** - астралогія.

Такім чынам, калі з паходжаннем слоў ***дзень*** і ***ноч*** усё было даволі проста, то з астатнімі адрэзкамі часу значна складаней, бо дзень і ноч з'ява вельмі канкрэтная, а ўсё астатняе мае вялікую долю абстрактнасці.

***Станіслаў Суднік.***

***Часовы выканаўца абавязкаў рэдактара Станіслаў Суднік***

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.

*Рэдакцыйная рада:*
Генадзь Бураўкін — старшыня, Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі, Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля, Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко, Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

*Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзеная інфармацыі.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 1. 06. 98 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 1473
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.